

# Ветразь надзеі

№3, кастрычнік 2002 года

Газета Слонімскай суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

## На карысць нашаму гораду

У Слоніме створаны клуб грамадзянскіх ініцыятываў, падтрыманы амерыканскай праграмай. Дырэктарам клуба абраны М.Варанец, а старшынёй Н.Трус. Гэтай арганізацыяй быў праведзены семінар "Удзел грамадзян у вырашэнні мясцовых праблем".

На гэтым семінары пашчасціла прымаць удзел і мне. Там нас вучылі, як вырашаць праблемы нашага горада. Міхась Варанец распавёў пра працу дэпутата, калі ён выконваў наказы выбаршчыкаў. На семінары было 30 чалавек са Слоніма і Зэльвы. Вядучымі былі Вітаўт і Лана Руднікі з Горадні, з Мінска выступаў юрыст.

Мы падзяліліся на каманды, рабілі плакаты да выступленняў.

Быў сярод прысутных Сулейман Байрашэўскі, які вучыць дзяцей арабскай мове. У час перапынку за кубачкам кавы выступіў з уласнымі песнямі А. І. Пасько, ён праспяваў песні пра Жыровіцы, пра Мінск.

Усім было цікава і прыемна быць разам. Арганізатарам семмінару быў Алег Шэлестаў.

Мікалай ВЕРАМЕЙЧЫК

## Дзеці таксама могуць рабіць сур'ёзныя справы


СЛОНІМУ 750 ГОД

Вучням нашага класа са сваім класным кіраўніком Трафімчык Т.У. было цікава сустрэцца з вядомымі людзьмі нашага горада. Мы падрыхтавалі вершы да 750-годдзя Слоніма, многія з іх напісалі самі, прыбралі свой клас, зрабілі падарункі і медалі "Лепшы слонімец". Да нас завіталі члены гуртка "Спадчына", стваральнік хаты-музея "Беларускае мястэчка" М.І. Рылко, журналіст М. Кананові, мастачка Таццяна Салыга.

Свае вершы чыталі вучні з паэтычнага гуртка "Ветразь надзеі" Валадось А., Ражкоўскі А., Верамейчык К., Сашко П., Кудзелька С, Дуброўскі П., Лукашэвіч А. Усе творы былі пра наш старажытны і малады горад.

Міхаіл Рылко расказаў пра старэйшага слонімскага паэта Гальяша Леўчыка, да якога ў 1939 годзе ў Слонім прыязджаў Я.Купала. М.І.Рылко падарыў дзецям адрэстаўраваную гліняную дудку, на якой іграў паэт са Слоніма.

Мастачка Т.Салыга прачытала свае вершы і зрабіла выставу карцін, прысвечаных нашаму гораду. Яна захапіла прысутных расказам аб задуме і стварэнні палатна "Птушка шчасця ў слонімскім парку".

Вучні ў час гэтай сустрэчы малявалі эмблемы нашага горада, спявалі беларускія песні.

Журналіст Мікола Кананові паведаміў аб сваёй працы па рэдагаванні зборніка "Паэтычная Слонімшчына", куды таксама ўвайшлі вершы членаў гуртка "Ветразь надзеі".

Так вучні заслужылі павагу дарослых.

Наташа ФАЛЬКО

**Таццяна Трафімчык**

# МОВА, РОДНАЯ МОВА!

Божым цудам можна назваць тое, што ў расейскім асяроддзі (у Слоніме ўсе школы рускія, усе ўстановы працуюць на расейскай мове) у мяне з'явілася ў душы такая моцная любоў да беларушчыны, якой хопіць на многія родныя душы маіх землякоў. Маўчаць беларусы, не патрабуюць сваёй школы на роднай мове. Спяць. І ўспамінаюцца мне радкі Т. Шаўчэнкі:

*Страшна ўпасці ў кайданы,*
*Паміраць ў няволі,*
*Яшчэ горай — спаці, спаці*
*І спаці на волі.*

Разварушыць сон нацыі можна толькі дзейнасцю на карысць роднай мовы, калі ты гарыш любоўю і нясеш гэтую любоў да нашага кута іншым.

Якія справы робім мы, сябры Слонімскай суполкі ТБМ? Вучым дзяцей пісаць вершы на роднай мове, выхоўваючы творчы нацыяналізм. У гэтым годзе па ініцыятыве А.М.Пырковай была арганізавана сустрэча ў музеі-хаце «Беларускае мястэчка» з слонімскім кампазітарам-песеннікам А.І. Пасько. Група сяброў нашай суполкі прыняла ўдзел у святкаванні 92-ых угодкаў з дня народзінаў Ларысы Геніюш, якое праходзіла ў Зэльве.

Мне, як старшыні слоімскай суполкі ТБМ, прыйшлося прадстаўляць сваю арганізацыю на «круглым стале» ў райвыканкаме ў жніўні гэтага года. Напісана заява ў выканкам аб стварэнні беларускай школы.

— На што мы спадзяёмся? — спытаеце вы. — Ніхто не захоча ў Слоніме ўзяцца за гэтую справу, справу стварэння беларускай школы.

— Мы спадзяемся на Бога, на ісціну любові, на сваю зямлю і народ. Больш нам няма на каго спадзявацца. За беларускай мовай любоў і гістарычная праўда. А гэта, паверце, нямала.

Сярод спраў нашай суполкі можам назваць паездку ў г.Чарнаўцы на Украіну. У гэтым годзе беларусы з Полацка, з Гародні, з Віцебска і Слоніма маліліся за сваю зямельку і занядбаную яе мову. Дэлегацыю са Слоніма прадстаўлялі М. І. Ракевіч, Наталля Трус, Таццяна Трафімчык і інш. Хор «Бацькаўшчына» з Гародні выканаў у Чарнаўцах акфіст да Божай Маці на беларускай мове. Няхай жа Бог і надалей запальвае іскрынкі любові да беларускасці ў душах людзей!

**Т. Трафімчык, *старшыня***
***Слонімскай суполкі ТБМ***

---

Двое вучняў з гуртка "Ветразь надзеі" атрымалі пуцёўкі ў летнік "Зубраня".

Трафімчык Юля і Санько Віка атрымалі пуцёўкі ад Таварыства беларускай школы, куды былі накіраваныя сачыненні дзяўчынак , прысвечаныя роднай мове. Па выніках конкурсу дзяўчынкі былі прэміраваны пуцёўкамі.

# Вершы пра Слонім

*Валадось Аляксей*

## СЛОНІМ

Слонім — гэта прыгожы горад,
Да яго вядзе многа шляхоў,
Слонім стаіць, як расквечаны золак,
Пра яго многа сказана слоў.

Рэчка ў Слоніме Шчара,
Каля Шчары цвітуць сады,
Яна плыве, як хмара,
Едуць экскурсіі сюды.

У Слоніме вельмі многа завулкаў,
Вабяць яны красатой.
Сэрца ў Слоніме заб'ецца гулка,
Тут нешта здарыцца з табой.

*Ражкоўскі Аляксей*

## ДЗІЎНЫ ГОРАД СЛОНІМ

Дзіўны горад Слонім
Ад бяды заслонім.
Ад прыгожага месца
Сэрца моцна заб'ецца.

Шчары плешчуць хвалі,
Птушкі заспявалі,
Шмат у горадзе шляхоў,
Больш яшчэ дамоў.



*Верамейчык Коля, Фалько Наташа, Ганчарук Оля*

## ЛІСТАПАД У СЛОНІМЕ

Лісцік — сэрца
Жахам б'ецца,
Жоўты горад.
Прыйдзе холад.



О караблі!
Лісты маёй зямлі!
Яны ляцяць,
На ўсіх глядзяць.



І просяць нас,
Каб быў той час,
Каб горад Слонім
Зноў стаў зялёным.



*Кудзелька Света*

## СЛОНІМСКІЯ ПАЭТЫ

Мой горад слаўны, добры і
пяшчотны,
Тут вуліц шмат, а назвы ім далі
У імя нашых слонімскіх паэтаў,
Якія тут раней жылі.

Яны любілі гэтую зямлю,
Складалі вершы для душы,
І я іх помню і люблю,
Вялікі след пакінулі яны.

Прыходзіць свята восенню — дзяды,
Успамінаем мы іх душы,
Яны любілі Слонім наш заўжды,
І мы іх клятвы не парушым.

# ДА 92-ГОДДЗЯ НАРАДЖЭННЯ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

**Таццяна Трафімчык**

***ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ***

Мне з вамі знаёмай быць не прыйшлося,
Супрун Васілёк прашумеў у калоссі
Пра Інту, пра ксівы і Дух Ваш магутны,
Свабодны і вольны, ў любові пакутны.

Ад роднае нівы святое маленне,
Да вас у Інту прыплыло блаславенне
З зямлі Еўфрасінні, што сілу давала,
Што сэрца бунтаркі ў бядзе гартавала.

Ды гора з бядою для Вас — прасвятленне,
На крылах буслiных плыло суцяшэнне.
І верш ваш магутны, як рокат зубрыны,
З душою зліваўся ў тыя часіны.

Ахвяры ўсе на алтар Беларусі
Вы неслі ў горы, ў пякельнае скрусе,
Ды столькі бяды на алтар памясцілі,
Што сэрца мо вытрываць болей не ў сіле.

«Маці мая сялянская,
Мова мая славянская»
А край юначы, адзіны,
Ад васілёчкаў сіні.

Калі ж праз пакуты і церні
Ваш верш залатым стаў зернем,
У Зэльве, ад кветак духмянай,
Лячылі вы «Споведдзю» раны.

І гуляся тут гаспадыняй,
Не эмігранткай слыннай,
А дзікае «эсперанта»,
Казалі, нясуць акупанты.

А беларускія сэрцы
Матчынай мовы слоўцы
Азораць, любоўю натоляць,
Аб шчасцейку загавораць.

Дух Ваш наўкола лунае,
Зэльвенская святая!
Ад кветак, лугоў маладая,
Любоўю душа прарастае.

Ветразь надзеі

**Рэдакцыйная калегія:** Трафімчык Т. **Набор, дызайн і вёрстка:** Алег ШЭЛЕСТАЎ

**Адрас:** 231800, г.Слонім, вул.Брэсцкая, 103/1, кв.61

***Нумар звёрстаны і выдадзены пры тэхнічнай падтрымцы ТМА «ВЯТРАК».***

Распаўсюджваецца бясплатна.